Выдавец:
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК. Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

Штотыднёвая газета

vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае

Выдаецца са снежня 1994 года

№12 (624) 22 сакавіка 2012 года.

Кошт свабодны.




Вясна, сакавік.

Photo ByMedia.net



**Акцыі**:

## «Зрабі паездку бяспечнай!»

**Увесь час мы кажам, што бяспека на дароге – гэта агульны клопат усіх удзельнікаў дарожнага руху.**

Асабліва вельмі сумна, калі дзіця, з'яўляючыся пасажырам, атрымлівае траўмы і калецтвы, бо бацькі не карыстаюцца дзіцячым аўтакрэслам. Ці сталы чалавек проста ігнаруе выкарыстанне рамянёў бяспекі, і, трапляючы ў дарожна-транспартнае здарэнне, гіне, хоць мог бы захаваць сабе жыццё. Часта можна бачыць на дарогах пешаходаў у цёмны час сутак, якія не выкарыстоўваюць светазваротныя элементы. Таму, у перыяд з 19 па 26 сакавіка 2012 года Дзяржаўтаінспекцыя Віцебшчыны праводзіць Рэспубліканскую прафілактычную акцыю па папулярызацыі сродкаў пасіўнай бяспекі, якая праходзіць пад дэвізам «Зрабі паездку бяспечнай!»

У гэты перыяд супрацоўнікі ДАІ правядуць гутаркі ў працоўных калектывах і навучальных установах, прадэманструюць прафілактычныя відэа-ролікі. Інспектары дарожна-патрульнай службы будуць выяўляць парушальнікаў, якія не выкарыстоўваюць у паездках рамяні бяспекі, а пры перавозках дзяцей – адмысловыя дзіцячыя аўтакрэслы. Пешаходы, якія ў цёмны час сутак пераходзяць дарогу без светазваротных элементаў, будуць таксама прыцягвацца да адміністрацыйнай адказнасці, якая цягне за сабой папярэджанне ці штраф ад 1 да 3 базавых велічынь.

Нагадваем, што за кіраванне транспартным сродкам вадзіцелям, не прышпіленым рамянём бяспекі, а таксама пры перавозцы пасажыраў, не прышпіленымі рамянямі бяспекі, за кіраванне матацыклам, або перавозцы на ім пасажыраў без моташлемаў ці з незашпіленымі моташлемамі прадугледжвае папярэджанне ці штраф да 1 базавай велічыні.

Калі звярнуцца да статыстыкі, то за студзень-люты бягучага года на дарогах вобласці адбылося 66 дарожна-транспартных здарэнняў, у якіх 23 чалавекі загінулі, 71 паранены.

Варта прызадумацца над лічбамі дадзенай статыстыкі і выконваць усе меры засцярогі і бяспекі на дарогах.

***Т. Зянькова.***

*Аддзяленне агітацыі і прапаганды ДАІ УУС Віцебскага аблвыканкама.*

Расонскі раён

# Урок выжывання

■ Чэслаў Якубовіч

**Ва ўсіх беларускіх школах прадугледжаны нават 4 спецыяльныя ўрокі выжывання і дзеяннаў на выпадак пажару.**

Вось толькі ў Расонскай сярэдняй школе імя П. Машэрава і падумаць не маглі, што на практыцы прыйдзецца сутыкнуцца з рэальнай пагрозай і траўмамі некалькіх вучняў старэйшых класаў падчас эвакуацыі. Пасля гэтага здарэння па ўсёй Віцебшчыне пачаліся масавыя праверкі ўстаноў адукацыі і іншых месцаў масавага знаходжання людзей. У самім жа райцэнтры выпадак неасцярожнага абыходжання пад лесвіцай з сабранай яшчэ летась макулатурай і агнём прывёў да яе ўзгарання раніцай. Сам пажар быў невялікі, супрацоўнікі МНС, якія прыбылі па выкліку, патушылі яго на працягу 10 хвілін. Прыйшлося за кароткі тэрмін эвакуіраваць, у тым ліку і з выкарыстаннем лесвіц,больш 600 школьнікаў і педагогаў. На жаль, не абышлося і без звычайнай панікі, калі чорны дым і моцнае задымленне будынка прымусілі старшакласнікаў скакаць з вокнаў. Шасцёра вучняў з траўмамі і пераломамі трапілі ў абласную бальніцу. Адной з іх трэба месяц лячыцца ў клініцы, а потым яшчэ цэлае лета насіць карсет. У райцэнтры пабываў і кіраўнік вобласці А. Косінец, група следчых праводзіць праверку і допыты. Аднак відавочна, што высновы трэба рабіць з гэтага здарэння сур'ёзныя. Быццам і рыхтаваліся ў школе да такой сітуацыі, праводзілі трэніроўкі. Але ў той дзень была паніка, настаўнікі разгубіліся і не ўсе вогнетушыцелі былі спраўныя, калі ўзнікла надзвычайнае здарэнне…

Глыбоцкі раён

# Спосаб дзедаўскі, але надзейны

■ Станіслаў Раманчук

**Яшчэ за савецкім часам вельмі шмат айчынных калгасаў штогод нарыхтоўвалі лёд, які замяняў ім халадзільнікі для малака.**

Да гэтай практыкі яшчэ летась актыўна вярнуліся ў Глыбоцкім раёне і не прагадалі. Таму і сёлета тут адным з першых стварыла ў сябе падобную брыгаду сельгаспрадпрыемства "Верхняе". У яе ўключылі чатырох спрактыкаваных мужчын, зыходзячы з нормаў тэхнікі бяспекі пра працы на вадаёмах. Сёлета лёд на азёрах Глыбоччыны ўдаўся на славу, яго таўшчыня месцамі даходзіла да 60 см. Нават сучасныя шведскія і нямецкія бензапілы аказаліся непрыдатнымі для такіх нарыхтовак. Прыйшлося ў справу ўключыць знакамітую "Дружбу", якая не падвяла. Штодзень мясцовыя ледарубы нарыхтоўвалі ледзяныя глыбы вагой да 100 кг у колькасці да 3 тон. Па разліках, на пачатак пашавага перыяду ўтрымання статку і высокіх надояў на зялёных кармах павінна хапіць 25 тон лёду. Штучны холад змясціў у спецыяльным сховішчы на плёнцы ўперамешку з пяском, апілкамі, саломай, тарфяной крошкай, каб не было доступу цёплага паветра. Праўда, пэўная частка запасаў лёду знікне пад зямлёй. Аднак, як пераканаліся раней, карысць ад такіх нарыхтовак вялікая. Вясной і летам каровы кормяцца круглыя суткі і на пашах падчас дойкі ў бідоны з сырадоем будуць апускаць пакецікі лёду, што прынясе гаспадарцы да 2 млн. рублёў дадатковай выручкі штодзень за малако вышэйшага гатунку і класа "экстра".

Пастаўскі раён

# Непрывабная прафесія – участковы

■ Кастусь Александровіч

**На працягу пяці апошніх гадоў самая спакойная крымінагенная абстаноўка ў вобласці захоўваецца ў двух самых заходніх раёнах – Пастаўскім і Браслаўскім.**

У прыватнасці, на Пастаўшчыне летась істотна скарацілася колькасць цяжкіх злачынстваў і не было зарэгістравана ніводнага забойства, пакушэння на забойства і згвалтавання. Аператыўнікам прыйшлося расследваць толькі адзін разбойны напад, які быў паспяхова раскрыты, як і 5 зафіксаваных грабяжоў. Праўда, як паўсюдна, рэдка які дзень абыходзіцца без розных крадзяжоў, але людзі самі часта ствараюць падставы злодзеям пажывіцца лёгкім спосабам. Каб забяспечыць спакой і бяспеку грамадзян, у райаддзеле міліцыі значную ўвагу надаюць прафілактыцы правапарушэнняў, практычна штодзень выязджаюць у рэйды, правяраюць нядобранадзейныя сем'і. Аднак апошнім часам супрацоўнікам РАУС прыходзіцца працаваць з павышанай нагрузкай, паколькі да поўнага штату не хапае 12 міліцыянераў, афіцэрскага і сержанцкага складу. Сутыкнуліся ў райаддзеле і з сапраўднай праблемай, паколькі сёлета вясной не хапае асабовага складу нават 5 участковых інспектараў міліцыі. А гэта ж – важнейшы ўчастак дзейнасці, куды цяжка падабраць прафесіяналаў для суровых будняў з заробкамі каля 300 долараў. Як правіла, служба там дні і ночы, службовага транспарту амаль няма. Дарэчы, прафесію вайскоўца пастаўчане выбіраюць больш ахвотна, па колькасці паступаючых у ваенныя ВНУ раён адзін з лепшых на Віцебшчыне.

## Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| | Чацвер 22.03.12 | | | | Пятніца 23.03.12 | | | | Субота 24.03.12 | | | | Нядзеля 25.03.12 | | | | Пнд. 26.03.12 | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +2 | +2 | +7 | +3 | +4 | +5 | +10 | +5 | 0 | -1 | +2 | 0 | -1 | -1 | 0 | 0 | -1 | -1 | +2 |
| Ціск | 754 | 755 | 754 | 751 | 749 | 748 | 747 | 748 | 751 | 753 | 755 | 754 | 754 | 752 | 747 | 742 | 745 | 750 | 753 |
| Вільготнасць | 95 | 100 | 77 | 82 | 88 | 91 | 45 | 61 | 81 | 87 | 58 | 69 | 87 | 92 | 97 | 95 | 93 | 92 | 62 |
| Вецер м/сек | 2 С-З | 3 С-З | 4 Ю-З | 5 З | 6 З | 6 С-З | 8 С-З | 5 С | 3 С | 3 С | 1 С-В | 1 С-В | 2 Ю-В | 3 Ю | 7 Ю-З | 3 З | 4 С | 6 С | 4 С |

# Лічба нумара

**27** – столькі паслоў дзяржаў Еўрасаюза, як паведамілі айчынныя і замежныя СМІ, у выніку вострага дыпламатычнага канфлікту пакінулі ў канцы лютага - пачатку сакавіка Рэспубліку Беларусь. Такога дэмаршу і, па-сутнасці, пачатку сапраўднай дыпламатычнай вайны з аб'яднанай Еўропай наш кантынент яшчэ не бачыў. Дарэчы, для нашай краіны такая звышардынарная падзея – не навіна і, на жаль, уваходзіць у практыку.

Нагадаем, у навейшай айчыннай гісторыі ўжо назіраўся падобны выпадак масавага ад'езду замежных дыпламатаў у 1998 годзе пасля высялення шэрагу дыпмісій з пасёлка Драздры. Тады з беларускай сталіцы былі адкліка극 для кансультацый 22 паслы, якіх нашы ўлады прымусілі пакінуць абжытыя рэзідэнцыі. Замежныя дыпламаты пакрыўдзіліся і расцанілі тое рашэнне ўлад РБ як парушэнне Венскай канвенцыі аб дыпламатычных зносінах. Цікава, што тады пацярпеў і расійскі пасол, але саюзную сінявокую Беларусь не пакідаў. Прыйшлося беларускаму кіраўніцтву кампенсіраваць немалыя расходы замежным дыпмісіям за праведзены рамонт і абуладкаванне будынкаў, якіх яны займалі.

Праз год у наступным 1999 годзе паслы вярнуліся ў Беларусь, ім былі прадстаўлены для працы, сапраўды, шыкоўныя новыя рэзідэнцыі. Цяпер жа ўмовы іх вяртання і вырашэння чарговага дыпламатычнага канфлікту кардынальна змяніліся і ўскладніліся. Галоўнае, чаго патрабуюць супольна еўрапейцы разам з ЗША ад нашай краіны – вызвалення палітзняволеных пасля таго, як афіцыйны Мінск першы распачаў гэту дыпламатычную вайну. Далейшыя падзеі разгортваліся імкліва.

У адказ на пашырэнне новых візавых санкцый ЕС беларускі МЗС прапанаваў главе яго прадстаўніцтва Майрэ Мора і польскаму паслу Лешэку Шарыпке адбыць у свае сталіцы для кансультацый. Адразу палякі адказалі на такі несяброўскі ход: прапанавалі сабраць чамаданы беларускаму паслу і выехаць з Варшавы дамоў, а таксама заклікалі сваіх партнёраў па ЕС да салідарнасці. Магчыма, гэтага не пралічвала беларускае кіраўніцтва, але рэакцыя Бруселя была імклівай, рэзкай і адзінай. Пасля кароткай нарады замежных паслоў у Мінску яны не сталі пакідаць РБ адначасова, як гэта было ў 1998 годзе, адправіліся дамоў найбольш прыемнымі для сябе спосабамі.

Па меркаванню большасці спецыялістаў-палітолагаў, цяперашні канфлікт і паніжэнне статусу замежных дыпмісій ЕС у Беларусі можа прынесці значна больш сур'ёзныя наступствы і нават эканамічныя санкцыі, чым было раней. Невыпадкова беларускае МЗС адразу папрасіла еўрапейскіх паслоў вярнуцца назад без усялякіх умоў, што толькі пацешыла суседнюю Расію. За збліжэнне з Масквой такім чынам не спрабуюць правучыць афіцыйны Мінск, як нехта лічыць. Справа ў значна больш суровых рэаліях, эскалацыя далейшай напружанасці будзе толькі ўзрастаць, паколькі цяжка каму небудзь змяніць унутраную палітыку РБ.

Адзіны, хто сапраўды рады пагаршэнню адносін афіцыйнага Мінска з Захадам – гэта Крэмль. Невыпадкова, адыходзячы ў адстаўку, расійскі лідар Д. Мядзведзеў выступіў разам з беларускім калегам з супольнай заявай супраць санкцый ЕС і ЗША. На фоне значна больш танных расійскіх энерганосьбітаў для РБ у Бруселя мала рычагоў уплыву на дэмакратызацыю ўнутрыбеларускіх парадкаў. Зараз можна толькі спрачацца, як будзе разгортвацца гэты канфлікт далей.

Да поўнага разрыву дыпламатычных адносін, хутчэй усяго, справа так і не дойдзе. Аднак, калі ўзаемныя адносіны стануць яшчэ больш варожымі, бо могуць быць еўрапейцамі ўведзены і кропкавыя эканамічныя санкцыі, то магчыма і значнае скарачэнне штатаў еўрапейскіх паслоў. Горш будзе, калі і беларускіх паслоў "папросяць" вярнуцца ў Мінск для кансультацый. У любым выпадку развіццё канфлікту вядзе да пэўнай самаізаляцыі нашай краіны ў Еўропе. Акрамя ўсходніх сяброў са сваімі інтарэсамі ў беларусаў не засталося іншага знешнепалітычнага вектара. Галоўнае, каб простыя людзі не адчулі на сабе дрэнных наступстваў гэтай дыпламатычнай вайны, праблем з атрыманнем уязных віз. Ды і прыйшла пара нарэшце адкрываць спрошчаны прыгранічны рух з Польшчай і Літвой, як гэта адбылося на латвійскім напрамку мяжы.

## Дзень за днём

**Як заўсёды першымі ў РБ на поўдні гаспадаркі ўжо пачалі веснавыя пасяўныя работы, сёлета прыйдзецца менеі перасяваць азімых, стан іх даволі добры пасля мінулай зімы. Яшчэ не было на кантыненце такога, каб краіну пакінулі адразу ўсе 27 еўрапейскіх паслоў дзяржаў Еўрасаюза. У Нацбанку Беларусі пацвердзілі, што краіна можа абысціся без новых крэдытаў МВФ, бо ён выстаўляе палітычныя патрабаванні. Тым часам замежны доўг РБ дасягнуў 34 млрд. $, кожны з беларусаў цяпер вінаваты па 3595 долараў. Сёлета пуцёўкі ў 368 беларускіх санаторыі могуць падаражэць з-за інфляцыі на 35 %.**

## Важнейшыя навіны свету

**Грэцыя.** Уладам краіны ўдалося пазбегнуць дэфолту і дамовіцца з большасцю крэдытораў аб спісанні інвестарамі 74 % укладанняў у грэчаскія даўгі на больш чым 100 млрд. еўра.

**ЗША.** Сітуацыю ў Беларусі дзяржсакратар Х. Клінтан і глава МЗС Польшчы Р. Сікорскі абмеркавалі ў Вашынгтоне, быў узгоднены далейшы план маніторынгу абстаноўкі ў РБ.

**Сірыя.** Яшчэ 4 брыгадныя генералы дэзертавалі з сірыйскай арміі і перайшлі на бок апазіцыі, разам з імі збеглі і 6 старэйшых афіцэраў і прыбылі ў паўднёвую частку Турцыі.

**Польшча.** Вядомы эксперт Войцех Бародзіч-Смалінскі заявіў, што Еўрасаюзу трэба рыхтавацца да таго, што хутка Беларусь страціць свой суверэнітэт і далучыцца да Расіі.

**Швейцарыя.** Жыхары 25 з 26 кантонаў на рэферэндуме выказаліся супраць павелічэння працягласці аплочваемых водпускаў з 4 да 6 тыдняў, бо стане дрэнна краіне і бізнесу.

**Афганістан.** Яшчэ больш абвастрылася сітуацыя ў краіне пасля расстрэлу байцом арміі ЗША ў 3 гадзіны ночы ў стане нервовага зрыву 16 мірных жыхароў у правінцыі Кандагар.

**Украіна.** Экс-главу МУС Ю. Луцэнка суд прызнаў вінаватым у незаконным налічэнні стажу вадзіцелю, быццам празмерных тратах на Дзень міліцыі і пакараў 4 гадамі калоніі.

**Францыя.** Глава МЗС краіны Ален Жупен заявіў у ААН, што хутка прыйдзе час, калі ў судзе адкажуць за свае злачынствы ваенныя і цывільныя ўлады Сірыі і найперш Б. Асад.

**Нарвегія**. Абвінавачванні ў тэрарызме і наўмысным забойстве 77 чалавек выставілі А. Брэйвіку, псіхолагі так і не прыйшлі да згоды прызнаць яго вар'ятам і шызафрэнікам.

**Ірак.** На працягу трох тыдняў экстрэмістышыты забілі камянямі ў Багдадзе 14 падлеткаў толькі за іх непатрэбны стыль адзення і прычоскі, варожыя быццам канонам іслама.

**КНДР.** У абмен на пастаўкі харчавання краіна пагадзілася спыніць вытворчасць і выпрабаванні ядзернай зброі, увяла мараторый на запускі ракет далёкай дзейнасці.

**ЗША.** У выпадку магчымай вайны з Іранам, пацвердзілі ў Міністэрстве абароны, армія прыменіць бомбы вагой 13,6 тон, здольныя знішчыць бункеры з таўшчынёй бетону 65 м.

**Кыргістан.** З турэмнай бальніцы ўдалося збегчы брату экс-прэзідэнта Ахмату Бакіеву, яго абвінавацілі ў цяжкіх злачынствах, заставалася знаходзіцца ў турме 2 гады і 6 месяцаў.

**Украіна.** У вядомага беларускага тэлевядучага АНТ ў выгнанні С. Дарафеева з'явілася на мясцовым 5 канале свая штодзённая аналітычная праграма "Час. Підсумкі дня".

**Малдова.** Міністэрства культуры забараніла пракат расійскага шавіністычнага імперскага фільма "Жнівень. Восьмага" пра вайну з Грузіяй, забараніла фільм Украіна, Азербайджан.

## Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Следчы камітэт РБ пацвердзіў факт затрымання гендырэктара буйнейшага завода айчыннага ВПК "Агат" і яго намесніка, падрабязнасці гучнай справы не раскрылі.

**Рагачоў.** Жыхароў райцэнтра засмуціла, што адсюль перанеслі ў Гомель фестываль-кірмаш "Дажынкі-2013" па просьбе кіраўніцтва вобласці аднавіць лепш абласны цэнтр.

**Мінск.** Новаўвядзеннем на парламенцкіх выбарах восенню, як заявіла старшыня ЦВК Л. Ярмошына, стануць тэле і радыёэдбаты кандыдатаў, калі яны не пабаяцца выйсці ў эфір.

**Астравец.** На ўскрайку райцэнтра пабудавалі жылыя дамы для кіраўніцтва будучай АЭС і расійскіх спецыялістаў, узводзяцца гаспадарчыя пабудовы, новых працоўных месцаў мала.

**Слонім.** Са згоды мясцовай улады ў райцэнтры дэмантавалі помнік Леніну ў сувязі з добраўпарадкаваннем тэрыторыі, у Беларусі найболей у Еўропе такіх манументаў Ільіча.

**Гомель.** На мясцовым хімічным заводзе асвоілі выпуск новых відаў мінеральных макра- і мікраўгнаенняў для сельскагаспадарчых культур: зерневых, цукровых буракоў, лёну.

**Мінск.** У сакавіку, як паведамілі ў Мінпраме Беларусі, поўнасцю спыніцца на тэлезаводах "Гарызонт" і "Віцязь" вытворчасць тэлевізараў, якія не прымаюць лічбавыя сігналы.

**Ашмяны.** На беларуска-літоўскай граніцы затрымалі і не пусцілі ў Літву вядомых палітыкаў А. Дабравольскага і А. Лябедзьку, яго жонку абшуквалі на працягу 2 гадзін.

**Мінск.** У адказ на санкцыі ЕС у Беларусі з'явіўся быццам "чорны спіс" са 108 грамадскіх дзеячаў і праваабаронцаў, якім нібыта забаронены ўладамі краіны выезд за мяжу.

**Гродна.** У цэнтральным парку побач з фантанам паставяць помнік Максіму Багдановічу, кампазіцыю "Вянок", у абласным цэнтры класік айчыннай літаратуры правёў дзяцінства.

**Брэст.** У абласной бальніцы ўпершыню за дзесяцігоддзе нарадзіўся сапраўдны волат-хлопчык вагой 5,73 кг, ростам 60 см, у яго 28-гадовай маці гэта трэція нармальныя роды.

**Бабруйск.** У калонію № 2 даставілі этапам адбываць 4,5 гады пазбаўлення волі праваабаронцу А. Бяляцкага, на Захадзе яго лічаць палітвязнем і патрабуюць вызвалення.

**Мінск.** Веснаю у сталіцы з'явіцца музей сучаснай беларускай дзяржаўнасці эпохі Лукашэнкі да 20-й гадавіны абвяшчэння суверэнітэту і незалежнасці Рэспублікі Беларусь.

**Гродна.** Вядомы даследчык літаратуры Сяргей Шапран у серыі "Гарадзенская бібліятэка" выдаў цікавую кнігу "Васіль Быкаў. Гарадзенскі архіў" з невядомымі творамі класіка.

**Мінск.** Выканаўчы прадзюсер БТ Дзмітрый Баранаў, аб'яўлены вінаватым у падтасоўцы вынікаў адбору на "Еўрабачанне", заявіў, што не аддаваў нікому падобных загадаў.

## Пенсіянеры змогуць атрымліваць павышаную пенсію ў выпадку больш позняга выхаду на яе



■ **Марына Носава, БелаПАН.**

Пенсіянеры Беларусі змогуць атрымліваць павышаную пенсію ў выпадку больш позняга выхаду на яе. Гэта прадугледжана ўказам № 136 "Аб мерах па ўдасканаленні пенсійнага забеспячэння грамадзян" ад 18 сакавіка, паведаміла прэс-служба прэзідэнта.

Згодна з указам, пры працягу працы без атрымання дзяржаўнай пенсіі па ўзросце пасля набыцця права на яе памер пенсіі прагрэсіўна павялічваецца: за першы год — на 6% заробку, што прымаецца для вылічэння пенсіі; за два гады — на 14% (павышэнне на 8% за другі год працы падсумоўваецца з павышэннем на 6% за першы год); за тры гады — на 24% (14% за першыя два гады плюс 10% за трэці год); за чатыры гады — 36% (24% за тры гады плюс 12% за чацвёрты); за пяты і кожны наступны год прадугледжана павышэнне памеру пенсіі на 14% заробку, якія таксама падсумоўваюцца з працэнтамі павышэння, устаноўленымі за папярэдні перыяд (за пяць гадоў — 50%, за шэсць гадоў — 64%).

Як зазначае прэс-служба, раней прадугледжвалася павышэнне памеру пенсіі па ўзросце за працу пасля дасягнення агульнаўстаноўленага пенсійнага ўзросту без атрымання пенсіі на 1% заробку, што прымаецца для вылічэння пенсіі, за кожныя два поўныя месяцы такой працы. Так, калі жанчына, якая мае стаж працы 37 гадоў, выходзіла на пенсію ў 55 гадоў, то памер яе пенсіі складаў 1 млн. 401 тыс. рублёў. Пры звяртанні праз пяць гадоў пасля наступлення пенсійнага ўзросту памер павялічваўся на 642 тыс. (на 45,8%), да 2 млн. 43 тыс.

У адпаведнасці з новымі нормамі пенсія за адкладзены выхад на пяць гадоў вырастае на 1 млн. 31 тыс., або на 73,6%, і дасягае 2 млн. 433 тыс. рублёў.

Апрача таго, указ павялічвае выплату па ўжо набытых правах на павелічэнне памеру пенсіі за адкладзены выхад на яе.

Пры вылічэнні пенсіі ў стаж нароўні з працай, калі праводзіцца выплата ўзносаў, уключаюцца перыяды іншай дзейнасці, на працягу якіх узносы не выплачваюцца (ваенная служба, вучоба ў дзённай форме атрымання адукацыі, догляд за дзецьмі, інвалідамі I групы і састарэлымі, якія дасягнулі 80-гадовага ўзросту). Пры вызначэнні заробку такія перыяды прапускаюцца.

Нормы ўказа распаўсюджваюцца на сённяшніх работнікаў, якія яшчэ фарміруюць свае правы на пенсіўнае забеспячэнне.

Указ уваходзіць у сілу з першай лічбы месяца, што ідзе за месяцам, у якім заканчваецца шасцімесячны тэрмін з дня яго афіцыйнага апублікавання.

## Панарама ўнутрыабласных падзей

**Наваполацк.** Пытаннем часу назваў першы віцэ-прэм'ер урада РБ Уладзімір Сямашка прыватызацыю мясцовага ўчастка нафтаправода "Дружба" ў накірунку Прыбалтыкі.

**Дуброўна.** У рамках абласной праграмы развіцця льнаводства на мясцовым льнозаводзе з'явіцца новая лінія перапрацоўкі, новыя цэхі – на льнозаводах у Паставах і ў Арэхаўску.

**Орша.** Вядомы доктар Дзмітрый Сайкоў у СДК вёскі Забалацце правёў у добраахвотна-прымусовым парадку кадзіраванне 75 мясцовых алкаголікаў ад згубнай прывычкі.

**Талачын.** Да веснавой сяўбы гаспадаркі раёна поўнасцю запасліся насеннем, а адборнай бульбай гатовы падзяліцца з іншымі рэгіёнамі Віцебшчыны, яравы клін будзе 26,5 тыс. га.

**Полацк.** Да юбілею роднаму гораду ў маі ўручаць 1150 розных падарункаў, тут паўстане помнік архітэктару Іаану, які ў XII стагоддзі пабудаваў першы хрысціянскі храм.

**Расоны.** З-за падпалу раніцай макулатуры і пажару з СШ імя Машэрава прыйшлося тэрмінова эвакуіраваць 575 школьнікаў і 36 педагогаў, пацярпелі 7 дзяцей ад пераломаў.

**Шуміліна.** 27-гадовая жыхарка раёна ўгаварыла сваю малодшую сястру заняцца ў Расіі прастытуцыяй, за гэта суд пакараў яе пазбаўленнем волі на 1 год і 6 месяцаў.

**Докшыцы.** На раённую Дошку гонару па выніках працы ў 2011 годзе занеслі імя калектыва Параф'янаўскай СШ, дыпломамі і прэміямі адзначылі яшчэ 12 лепшых вучняў.

**Віцебск.** У абласной бібліятэцы адкрылі выставу акварэльных партрэтаў вядомых беларускіх жанчын мінулых стагоддзяў, напісаных мастаком Міхасём Ляўковічам.

**Талачын.** У вясковай хаце дзяржінспектары знайшлі месца раздзелкі 3 незаконна здабытых дзікіх кабаноў і 6 самаробных петляў, урон прыродзе склаў 6,3млн. рублёў.

**Полацк.** З фермы, якая не ахоўвалася, 24-гадовы рабочы з вёскі Багушова ўкраў цяля і пойдзе пад суд, як і ліцэіст, які разам з сябрам угнаў іншамарку, каб пакатацца ноччу па горадзе.

**Лепель.** Пакінутая без нагляду ў ваенным гарадку Межыца 6-гадовая дзяўчынка, трапіла ў прамоіну ракі Улла з бурным цячэннем вады і патанула, яе цельца не ўдавалася знайсці.

**Орша.** З дапамогай гарспарткамітэта ў медыцынскім каледжы адкрылі абноўленую сучасную спартыўную залу, яго каманды 4 гады запар лепшыя ў гарадской спартакіядзе.

**Верхнядзвінск.** На тэрыторыі раёна і суседніх Мёрскага і Шаркаўшчынскага Мінпрыроды РБ увяло забарону на паляванне на вадаплаваючых птушак у сёлетні веснавы сезон.

**Віцебск.** Гаротны ФК "Віцебск" у 1-й лізе зноў узначаліў галоўны трэнер Ю. Канаплёў, грошай у клуба мала, дубль распаўся, дамашнія гульні каманда вымушана гуляць у Оршы.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

**У Беларусі на душу насельніцтвапрыпадае 0,91 га сельгасугоддзяў і 0,50га раллі. У Бельгіі – 0,07га раллі.**

**"Белорусские крестьяне всегда отличались трудолюбием, выносливостью и любовью к своим семействам. Эти качества сильно привязывали их к родным очагам и удерживали от отъезда в другие края для поиска труда и переселения... По природе белорусские крестьяне миролюбивы, терпеливы и благожелательны. Благодаря таким качествам соседи жили в мире, в праздничные дни навещали друг друга, а в беде взаимно помогали."**

*Бывший епископ Витебский и Полоцкий Афанасий Мартос.*

# Зямля і яе гаспадары



■ **Фадзей Шымуковіч,**
*краязнаўца, г. Дзісна.*

У свеце адбываюцца вельмі сур'ёзныя глабальныя змены ў сельскай гаспадарцы і ў прадуктовай сітуацыі. Каля паўтара міліярда чалавек сістэматычна недаядаюць, а то і галадаюць. Расце дзіцячая смяротнасць ад голаду і недастачы вады. А прырост насельніцтва ідзе хуткімі тэмпамі. У 1850 годзе нас было ўсяго 1 млрд, у 1930 г. – ужо 2 млрд., у 1976 г – 4 млрд., у 1987г – 5 млрд., то сёння ўжо 7 млрд. Вучоныя падлічылі, што зямныя рэсурсы харчавання могуць пракарміць 12-13 млрд. чалавек, але пры ўмове максімальнай аддачы нашай зямлі.

Аб праблеме вытворчасці харчавання стараюцца замоўчваць, або ёй прыдаюць выгляд інфармацыі другараднага значэння. Многія нават не ведаюць, што зараз ідзе масавы дзяржаўны "разбор" афрыканскіх земляў у доўгатэрміновую арэнду пад сельскагаспадарчую вытворчасць. Арандатарамі выступаюць не камерцыйныя фірмы, а самі дзяржавы. Кітай, Саудаўская Аравія, Паўднёвая Карэя, Японія і іншыя краіны тэрмінова заключаюць дамовы на працяглыя тэрміны з афрыканскімі краінамі: Камбоджай, Тайландам, Мадагаскарам і іншымі на дзясяткі мільёнаў гектараў для вырошчвання сельгаспрадукцыі. У адным Судане ў апошнія гады было ўзята ў арэнду некалькі мільёнаў гектараў. Паўднёвая Карэя ў Мадагаскары ўзяла ў арэнду на 99 год 1,3 млн. га, і гэта пры ўмове, што агульная плошча ворных земляў у самім Мадагаскары 2,5 млн. га пры насельніцтве больш 14 млн. чалавек.

Сітуацыя ў свеце з вытворчасцю зерня ў бліжэйшы час можа рэзка змяніцца ў горшы бок у сувязі з пацяпленнем клімату, асабліва для ЗША, Канады і Еўропы. ЗША экспарціруюць амаль 100 млн. тон зерня, Заходняя Еўропа 50 млн. тон. Цячэнне Гольфстрым пахаладнее, і клімат у гэтых краінах чакаецца халадней на 8-9 градусаў у сярэднім. Гольфстрым можа памяняць траекторыю руху. Воды Гольфстрыма салёныя і больш цяжкія, а Лабрадорскага воды, якія ўтвараюцца ад таючых ільдоў, прэсныя і больш лёгкія. Шчыльнасць вод Гольфстрыма вышэйшая за прэсныя воды Лабрадора, таму пры сустрэчы Гольфстрым як бы "ныряет" пад Лабрадорскае цячэнне, у выніку страчвае сілы, запавольвае хуткасць цячэння і часткова паварочвае ў зваротны шлях каля берагоў Заходняй Еўропы і Паўночнай Афрыкі. А гэта непазбежна павінна прывесці да змянення клімату ў ЗША, Канадзе і Заходняй Еўропе, прычым у горшы бок. Але пакінем "страшылкі" вучоным, хоць усё гэта нельга скідваць з уліку чакаемых праблем і акунемся ў рэальную сітуацыю.

Апусцімся на грэшную зямлю і паглядзім на рэальнае становішча: што можа даць зямля клапатліваму гаспадару. Возьмем да прыкладу Галандыю. Яе тэрыторыя 41,2 тыс. км², а насельніцтва 16 мільёнаў чалавек або 400 чалавек на 1 км². Гэта самая вялікая шчыльнасць насельніцтва ў свеце. Зямля тут – велічайшая каштоўнасць. Яе катастрафічна мала – гэта самая перанаселеная краіна Еўропы, і не толькі Еўропы. Прыкладна 40% усёй зямлі галандцы адваявалі ў мора – насыпаючы дамбы і адпампоўваючы ваду з мора. Шляхам вялікіх намаганняў яны неўрадлівае марское дно ператварылі ва ўрадлівую глебу. Галандцы забяспечваюць сябе прадуктамі поўнасцю і яшчэ кожны год экспартуюць сельгаспрадукцыі на 17 млрд. еўра!!! Сваю зямлю галандцы вельмі цэняць і ні пядзі не ўступаюць акіяну. Амаль па ўсёй берагавой лініі створана магутная сістэма дамбаў працягласцю больш 3 тыс. км, і яна пастаянна ўмацоўваецца і ўдасканальваецца.

Гэта вельмі працалюбівы народ. У канцы 80-х гадоў XX стагоддзя, рыхтуючыся да першага занятку ў сістэме палітасветы, які заўсёды адбываўся 1 кастрычніка, я звярнуў увагу на артыкул у "Праўдзе" пад загалоўкам "Свіньі парадокс". Галандская сям'я ў складзе мужа, жонкі і сына, як фермерская гаспадарка, займалася свінагадоўляй. Кожны год вырошчвалі 150 тон свініны, прычым не сальнай, а беконнай. Маглі б і больш, але быў ліміт не больш 150 тон. Акрамя гэтага, яны апрацоўвалі 40 га зямлі, на якой вырошчвалі ячмень і пшаніцу з ураджайнасцю 75-90 ц\га амбарнага зерня. Ужо тады, больш 20 год назад, у іх усё было камп'ютарызавана. Гаспадар працуе на трактары ў полі і на экране манітора ў кабіне трактара мае магчымасць кантраляваць, што адбываецца ў любым блоку свінафермы.

Для галандцаў фантастычны па нашых мерках прыбытак ад сельскай гаспадаркі не самамэта, а сродак стварэння аднаго з самых высокіх узроўняў жыцця свайго народа ў свеце! Каштоўных выкапняў у іх практычна няма. І яны сацыяльныя пытанні вырашаюць выдатна. Пацвярджэнне гэтаму той факт, што 73-гадовая каралева Беатрыкс з вецярком ганяе на веласіпедзе і горных лыжах, абажае верхавую язду. А мы ў 60 год становімся бездапаможнымі развалюхамі.

Тады ж я патэлефанаваў у раённае статыстычнае ўпраўленне і папрасіў дадзеныя па свінакомплексу ў Павецці нашага раёна. Пачуўшы на тым канцы провада, што мне, як прапагандысту, дадзеныя патрэбны для палітзаняткаў, далі іх ад першага слова. І вось што я пачуў: комплекс вырабляе кожны год 450 тон сальнай свініны, абслугоўвае яго прыкладна 60 чалавек штатных і няштатных работнікаў. А адсюль і сабекошт, і эфектыўнасць вытворчасці, і якасць прадукцыі.

У свеце склалася складаная сітуацыя па размеркаванні зямлі паміж дзяржавамі і народамі. Адны аказаліся абдзеленымі, другія маюць лішкі, якія выкарыстоўваюць крайне нерацыянальна. Так, Кітай мае агульную плошчу 9,6 млн.км², з якіх толькі 14% прыгодны для жылля, або 1,35 млн. км², астатняя тэрыторыя - горы і пустыні. Таму і шчыльнасць насельніцтва адпаведная: 142 чалавекі на 1 км² у сярэднім, і 1030 чалавек на 1 км² прыгоднага для жылля. Побач знаходзіцца Сібір па плошчы прыкладна роўнай Кітаю, але пражывае ў Сібіры толькі 18 млн. чалавек або 1,5 чалавека на 1 км².

Ну, а што мы маем у нашай роднай Беларусі? На плошчы 206,4 тыс.км² пражывае 9,44 млн. чалавек, або 46 чалавек на 1 км². Меншая шчыльнасць толькі ў Нарвегіі, 20 чалавек на 1 км² і Фінляндыі, 17 чалавек на 1 км². Наша Віцебская вобласць з плошчай 40,1 тысяч км² і насельніцтвам 1,24 млн. чалавек мае шчыльнасць 31 чалавек на 1 км² або ў 13 разоў меншую, чым шчыльнасць насельніцтва ў Галандыі. А зараз зробім невялікае параўнанне: тэрыторыя Галандыі большая за нашу вобласць толькі на 1,1 тысяч км². Уявіце, што галандцы перасяліліся ў Віцебскую вобласць. І яны асуджаны на страшнейшы голад. Нават уся Беларусь нармальна не змагла б накарміць галандцаў. А яны са сваёй тэрыторыі не толькі цудоўна сябе забяспечваюць ядой, але і на 17 млрд. еўра экспартуюць. Праўда, мы таксама экспартавалі на 3 млрд. долараў прадукцыі харчавання. У асноўным гэта малако і малочная прадукцыя, мяса і мясныя прадукты ў Расію, але ў асноўным за лік таго, што планамерна не можам нармальна забяспечыць гэтымі прадуктамі сваіх людзей. Ды і людзі ў сілу іх дарагавізны ў адносінах да сваіх прыбыткаў не могуць купіць іх у патрэбнай колькасці. Тут ужо ў сілу ўступае наша пагаворка: "Как потопаешь, так и полопаешь". Галандцы вунь як умеюць топаць. Нездарма ў 1941 годзе, калі немцы акупіравалі Дзісну, то ў прыгарадных Дарожкавічах калгас не разагналі, а захавалі. Вось толькі ўпраўляючага камендант Дзісны обер-лейтэнант жандармерыі Галь прывёз галандца. А паколькі ў Дзісне знаходзіўся шпіталь для нямецкіх раненых афіцэраў, то ён забяспечваўся малаком і мясам з гэтага калгаса.

Ну, а як мы "топаем"? Вось ужо некалькі год запар, пры дастатковай колькасці грубых, сакавітых кармоў і канцэнтратаў, не можам падняць сярэднясутачны прывагі БРС вышэй за 550-600 грам. У гэтым годзе па раёну далі павелічэнне +10грамаў! У выніку ў 2008 годзе адкормачны комплекс у Чэрэсах даў убытак 590 млн. рубл. А ў 2010 годзе прадалі ялавічыны на 2,5 млрд. руб. пры яе сабекошце больш 3,5 млрд. рублёў. Убытак больш 1 млрд. рублёў. Аналагічнае становішча і з малаком. Сярэдні раённы паказчык далёкі ад 4000кг, хоць асобныя гаспадаркі паспяхова штурмуюць граніцы ў 5000 і 5500кг. Прычына – чалавечы фактар. Развучыліся нармальна працаваць, затое навучыліся піць і красці.

Я ўжо пісаў, што галандцы над сваёй зямлёй чаруць як над дзіцяці. Умелі гэта раней рабіць і мы, калі яна, радзімая матухна, была нашай асабістай уласнасцю. Майму бацьку ў спадчыну дасталося 3,5га зямлі. Бацька з маці ўмудраліся з гэтага надзелу пракарміць, абуць, адзець, падрыхтаваць пасцельнае на 6 чалавек сям'і. Мы не раскошвалі, але і не галадалі. А вось працаваць даводзілася ўсім і многа. З гэтай жа зямлі гадавалі каня, карову, парасёнка, курэй і, калі ўдавалася нарыхтаваць на зіму кармоў, то і 1-2 авечак. А яшчэ патрэбна было заплаціць грашовы падатак і натуральны (зерне, бульба, малако, мяса, яйкі).

Вясной 1950 года арганізавалі калгас. Зямлю забралі ў калгас. Нам на 6 едакоў пакінулі 60 сотак ворнай зямлі. З яе мы павінны былі карміцца самі, карміць парасёнка, кур і ўсё, што толькі было можна пераўтварыць у корм для каровы – таму што яна станавілася галоўнай карміцелькай. Абагульнілі коней, увесь сельскагаспадарчы інвентар, вытворчыя пабудовы. Устанавілі рэгламент удзелу ў грамадскай працы і мінімум выпрацоўкі трудадняў. Трудадзень – адзінка ўліку працы, якая затрачваецца на грамадскай рабоце – 280 для мужчын і 260 для жанчын. За невыкананне мінімуму пазбаўлялі права на карыстанне калгаснымі конямі для апрацоўкі агарода, выключалі з калгаса без права на атрыманне тваёй абагульненай маёмасці, маглі па артыкуле "сабатажник" адправіць за краты. Да прыкладу – 1,25 трудадні налічвалася за 30 сотак скошаных лугавых сенакосаў, або 20 сотак палеглых траў.

Зямлю, якую выкупіў мой прадзед згодна рэформы 1861 года, палітую потам і крывёй дзеда Сцяпана (ён у 45 год пайшоў з жыцця па прычыне падрыву здароўя на цяжкай рабоце), якая дасталася ў спадчыну майму бацьку і палітую і маім дзіцячым і юнацкім потам, забралі бясплатна. І што з ёй зрабілі? Як малапрадукцыйную вывелі з севазвароту, засеялі многагадовай травой, а тая тэрыторыя, якая прымыкала да лясного масіву, зарасла кустоўем. Колькі ж зямлі з-за безгаспадарчасці зарасло і прадаўжае зарастаць кустоўем.

У Беларусі за 10 год – з 1966 па 1974гг – плошча сельгасугоддзяў скарацілася на 116,8 тысяч га, а ворнай – на 177,1 тысяч га. У 80-х гадах з севазвароту было выведзена яшчэ 600 тысяч га і перададзена лясгасам пад пасадку лясоў як землі малаўраджайныя. Чамусьці ў нас адносяць да малаўраджайных земляў, на якіх раней вырошчвалі прадукцыю, а ў Галандыі засоленае марское дно здольны пераўтварыць ва ўрадлівую глебу. Не ўмеем мы, ды і не хочам, працаваць над павышэннем урадлівасці глебы. Але гэта асобная вялікая тэма.

Сёння вакол Дзісны, і не толькі, стаіць маса няворнай зямлі. Гэта расаднік пустазелля. Звярнуўся ў гарсавет дадаткова да маіх 10 сотак дабавіць яшчэ 10 сотак з няворнага ўчастка, які стаіць побач. Калі ласка, але пішы заяву, з вобласці прыедзе землеўпарадчык, замерыць, складзе паперы і г.д., а галоўнае - за ўсё плаці, плаці, плаці. Заплаціш больш, чым збярэш ураджаю. І я такі не адзіны. Калі ў бацькі забралі 3,5га дагледжанай зямлі, то ні грошы, ні папер не затрабавалі. А вось яго сын, каб узяць 10 сотак участка, які зарастае пустазеллем, павінен пабегаць і галоўнае – заплаціць. Ці ёсць у гэтым нармальная логіка? Я што, гэту бульбу, капусту, якую вырашчу, за мяжу сплаўлю, або ствару больш моцную экалагічна чыстую прадуктовую базу? Калі ж мы навучымся лагічна думаць і разважліва паступаць? І ці навучымся?



**Падвозчыкі кармоў для буйной рагатай жывёлы.** *Фота ByMedia.net*

## Віншаванкі

*Людміла Уладзіміраўна Паварэнь*

Мы поздравляем с юбилеем!
Пусть окружает Вас Любовь
И будет на душе теплее
От добрых и сердечных слов.
Благополучия желаем
На много-много лет вперёд,
Пусть радость сердце наполняет,
А в доме счастье пусть живёт!

*Сын, нявестка, унукі, праўнукі.*

# Мястэчка Глыбокае

Працяг.
Пачатак у №4(616) , №5 (617), №6 (618), №7(619), №8(620), №9 (621), №10(622); №11 (623) за 2012 год.

■ Аляксандр Івашчонак, *бакалаўр гісторыі.*

**Публікацыя захоўвае стыль і правапіс аўтара.**

## Паўстаньне Тадэвуша Касьцюшкі ў Глыбокім

Апавядаючы гісторыю мястэчка Глыбокага, варта таксама ўзгадаць адзін цікавы эпізод з гісторыі, які быў адным з першых праяваў патрыятызму і любові глыбачанаў да свае Бацькаўшчыны – Рэчы Паспалітай. Гэтым эпізодам было паўстаньне Тадэвуша Касьцюшкі.

Як вядома, пасьля другога падзелу Рэчы Паспалітай, нашае мястэчка апынулася ў межах Расейскай Імперыі, чым былі не задаволеныя ня толькі мясцовыя патрыёты, але таксама і таргавічане (удзельнікі Таргавіцкай канфедэрацыі – паплечнікі Расеі). Не былі згодныя з існуючым станам таксама і ўладальнікі мястэчка Глыбокага – манахі Кармэліты босыя. Таму, хутчэй за ўсё, галоўным цэнтрам руху супраць Расеі на Глыбоччыне быў кляштар Кармэлітаў, а яго іспіратарамі былі манахі. Глыбоцкі кляштар пасьля II падзелу Рэчы Паспалітай быў адлучаны ад сваіх вышэйшых манаскіх уладаў (правінцыяла), якія знаходзіліся ў Вільні. Кармэліты былі вельмі зацікаўленыя тым, каб Глыбокае як мага хутчэй вярнулася ў склад Рэчы Паспалітай. Менавіта таму, нашае мястэчка адным з першых на тэрыторыі Вялікага Княства Літоўскага прыняло актыўны ўдзел у паўстаньні Т. Касьцюшкі. А дакладней, Кармэліты пачалі прыгатаваньне да гэтага паўстаньня значна раней, бо ўжо ў 1792 г., адразу пасьля акупацыі Глыбокага маскавітамі.

На пачатку 1794 г. да Кармэлітаў на нараду прыехаў сам Якуб Ясіньскі, які нават пакінуў манахам свайго нованароджанага сына Ваўжыньца (Лаўрэнція), відочна прадчуваў, што паўстане будзе вельмі цяжкім, таму сваё дзіцяці пакінуў на выхаваньне манахам.

Паўстаньне Т. Касьцюшкі[1] распачалося 24 сакавіка 1794 г. ў Кракаве, а ўжо 27 красавіка (месяц пазьней) расейскі маёр граф Левін Аўгуст фон Беньнігсэн атрымаў наказ як мага хутчэй выслаць ў Глыбокае большую лічбу войска, прыкладна каля 120-130 егераў, каб патушыць паўстаньне супраць Расеі. Наступнага дня, 27 красавіка, расейскі гэнэрал Цімафей Туталмін напісаў у сваім рапарце Мікалаю Рэпніну, які быў галоўнакамандуючым, што ў мястэчку Глыбокае пануе хісткі настрой, і што ўсе жыхары думкамі прыгатаваныя да ўдзелу ў паўстаньні. Таксама гэнэрал Лукашэвіч у сваім рапарце Рэпніну 28 красавіка пісаў, што, быць можа, вялікая лічба расейскага войска ў мястэчку напалохае жыхароў браць удзел у паўстаньні.

Аднак і гэта не дапамагло. Ужо 4 траўня Туталмін пісаў у сваім рапарце да Зубава, што паўстаньне ахапіла Браслаў, Слабодку, Глыбокае і Докшыцы. Туталмін напісаў таксама і пра нейкага "ўніяцкага папа" Канстанцінавіча, які на Вяліканьне не даваў камуніі (не прычашчаў), пакуль веруючыя не прысягнулі прыняць удзел у паўстаньні супраць маскавітаў. Гэнэрал таксама падкрэсьліў вялікую ролю ў прыгатаваньні паўстаньня нашых Кармэлітаў, якія прымалі ў сваім касьцёле "тысячы" прысяг на ўдзел у паўстаньні, а акрамя таго дазволілі куць пікі для паўстанцаў у сваіх кузьнях.

Як бачна, удзел у паўстаньні прынялі амаль усе жыхары мястэчка. Адзінай перашкодай былі габрэі, якія працавалі на карысьць расейцаў. Варта прыгадаць, што аж да падзелаў Рэчы Паспалітай, Кармэліты забаранілі габрэям сяліцца ў мястэчку Глыбокім, таму габрэі жылі толькі ў радзівілаўскім горадзе Глыбокае.



Кіраўнік паўстаньня Тадэвуш Касьцюшка.



Гэнэрал Якуб Ясінскі.



Паўстаньне Касьцюшкі.

Падчас паўстаньня менавіта мясцовыя габрэі працавалі як шпіёны на карысьць расейцаў, і даносілі на ўсіх удзельнікаў паўстаньня. Вельмі вядомым расейскім шпіёнам быў габрэй Моша Шмуйловіч з Мядзеля, дзе Кармэліты босыя таксама мелі свой кляштар. Гэты габрэй 31 траўня напісаў данос на ўдзельнікаў паўстаньня, у якім напісаў ня толькі імёны паўстанцаў, але таксама зазначыў, што менавіта манахі Кармэліты былі сувязістамі паміж паўстанчымі камітэтамі. У якасьці адказу на гэты данос расейскі гэнэрал выслаў дадатковыя войскі ў Глыбокае, Мядзель, Паставы, Шаркоўшчыну, Докшыцы і Сьвір.

Акрамя таго Туталмін выдаў наказ арыштаваць пэўнага Корсака, агітатара на карысьць паўстаньня, якога ён апісаў як вельмі небясьпечнага чалавека. Быць можа, гэтым Корсакам быў пазьнейшы прыёр кармэлітаў у Глыбокім айцец Рамуальд ад сьв. Ёахіма Корсак (прыёрам 1799-1802гг.). Таксама быў выдадзены наказ арыштаваць "папа" Канстантыновіча разам з духавенствам з Лагойска і Докшыц. Цяжка сказаць чаму Туталмін не ўзгадаў пра Кармэлітаў з Глыбокага. Быць можа таму, што ня меў на іх доказаў, бо дзейнічалі больш утойліва, не вядома. Аднак ужо 8 ліпеня гэнэрал Туталмін павялічыў лічбу расейскіх войск у мястэчку Глыбокае, аб чым даклаў графу Мікалаю Салтыкову.

Усе вышэй апісаная дзейнасьць расейскіх уладаў у стасунку да мястэчка, а менавіта той факт, што амаль увесь час гэнэрал павялічваў лічбу войска, можа сьведчыць аб тым, што напрацягу паўстаньня існавала пачуцьцё нарастаючай нябяспекі з боку глыбачанаў. Быць можа, у мястэчку не было маштабнага збройнага супрацьстаяньня, аднак паўстае пытаньне: навошта тады расейцы амаль кожны месяц высылалі ў Глыбокае ўсё новыя і новыя эскадроны жаўнераў? На жаль, сёньня цяжка адказаць на гэтае пытаньне.

Таксама цяжка падцьвердзіць сувязь манахаў Кармэлітаў з Тадэвушам і Самуэлем Корсакамі, актыўнымі ўдзельнікамі паўстаньня. Напэўна Тадэвуш ня раз быў у глыбоцкім кляштары, а перад падзеламі Рэчы Паспалітай ён быў полацкім падчашым, а пасьля і полацкім скарбнікам. Можа менавіта ён, Тадэвуш Корсак, будучы супрацоўнікам Якуба Ясінскага, яшчэ ў 1793 г. выслаў у Глыбокае да кармэлітаў паручніка Кушлеўскага на так званыя "звяды", можа такім чынам манахі, а перадусім айцец Рамуальд Корсак, кантактаваліся з Найвышэйшай Літоўскай Урадавай Радай, членам якой быў Самуэль Корсак. Аднак ня можна запярэчыць аднаму факту, што кармэліты былі вельмі блізка зьвязаныя з сям'ёй Корсакаў, дзяцей якіх, манахі высылалі да сваёй школы ў Беразьвеччы пры базыльянах, некаторыя зь якіх уступалі ў кляштар, станавіліся манахамі. Акрамя таго, шмат Корсакаў прыняло актыўны ўдзел у паўстаньні Т. Касьцюшкі.

Вяртаючыся да самага паўстаньня, то як вядома 12 жніўня 1794 г. расейцы занялі Вільню, 10 кастрычніка Тадэвуш Касьцюшка патрапіў у палон, 4 лістапада быў забіты Якуб Ясінскі, 5 лістапада была занятая расейцамі Варшава, а 16 лістапада паўстанцы скапітулявалі – гэта быў канец паўстаньня. Год пазьней, 24 кастрычніка 1795 г. адбыўся III і апошні падзел Рэчы Паспалітай, якая перастала існаваць як дзяржава. Глыбокае ўвайшло у склад Расеі.

Падсумоўваючы, варта падкрэсьліць вялікі ўнёсак глыбоцкіх Кармэлітаў у арганізацыю паўстаньня, бо менавіта яны прымалі тысячы прысяг на вернасьць Рэчы Паспалітай, якія складала мясцовая шляхта ў прыкляштарным касьцёле Унебаўзяцьця перад цудадзейным абразом Маці Божай Падхорнай, менавіта Кармэліты кулі ў сваіх кузьнях пікі для паўстанцаў, менавіта яны езьдзілі з аднаго кляштара ў іншы як сувязныя паміж паўстанцамі, былі носьбітамі інфармацыі. Быць можа, само мястэчка Глыбокае не адзначылася выдатным збройным паўстаньнем супраць расейцаў, але напэўна нельга не дацаніць "інтэлектуальнага" паўстаньня супраць расейцаў, вялікая заслуга ў чым была Кармэлітаў.

Рэч Паспалітая спыніла сваё існаваньне, аднак глыбачане не намерваліся пагадзіцца з такім станам рэчаў. Як пазьней пакажа гісторыя, глыбачане яшчэ некалькі разоў пад кіраўніцтвам Кармэлітаў змогуць паказаць сваю непрыхільнасьць да расейскіх акупантаў і свой вялізарны патрыятызм да Рэчы Паспалітай.

*Працяг будзе.*

**Заўвагі:**

[1] У 1930-ыя гг рынкавы пляц у Глыбокім насіў назоў – Пляц Т. Касьцюшкі (Rynek Kościuszki). На гэтым месцы цяпер знаходзіцца 7-павярховы Дом Саветаў (райвыканкам).

### Архіўны дакумэнт

***29 мая. Сообщение генерала И. Германа Н. Репнину о своих действиях в Браславском повете***

Получа на ходу повеление вашего сиятельства от 27 мая, из Лушки чрез Ермановичи следовать буду к стороне Браслава и соединюсь около Погоста с баталионом, которой от меня из Десны туда отражен. Но как сей же час получил курьера от господина минскаго губернатора, и кавалера Неплюева, что в Волколате в тридцати верстах от **Глубокаго** волнение около етаго места в самом народе явно открылось, что команда из Минска в 20 человек туда посланная изтреблена и что посему думать должно, что сие произшествие имеет свой корень в какой-либо особой партикулярной причине, ежели подлинно команда там бывшая в двадцать человеках истреблена. Но при всем том служит сие доказательством, что и внутри границ в настоящих обстоятельствах на мелкия раздробления войски разсыпать не должно. Они приходят от того в неуважение и потому опастности подвержены. Имеется между сими бунтовщиками и мятежниками виленское известное сообщение. Я принужденным нахожусь в **Глубокое** отделить батальон и туда вскорости отрядить двух ескадронов от Псковскаго драгунскаго полку с орудием, сколь скоро сей полк в Десну прибудет. От реченнаго полку получил сегодня рапорт, что первая колонна онаго прибудет 2 числа июня в Десну.

*АВПРИ, ф. 79, оп. 6, д. 1838, л. 20 - 20 об.*

### Архіўны дакумэнт

***13 июня. Отношение генерала И. Германа к Н. Репнину с жалобами на продовольственные трудности***

Доставление провианта меня крайне озабочивает. Онаго довольно есть в Десне и Полоцке, но подводы ищутся с великою трудностию. Шедши от Десны с десятидневным провиантом, сей провиант вчерась уже кончился и я перебираюсь всячески, доставая, сколько найду в неприятельской земле. Отрядами изнурил конницу. Нет хлеба в здешнем краю и Польша походит более на пустыню, нежели на обитаемую землю.

Уведомился я сего дня, что десятидневной провиант мой из Десны прибыл в **Глубокое.** На всякий случай отправил я уже вчерась туда полковыя провиантския фуры. Люди, близ границы живущия, скрываются от страху по лесам и начели только иные возвращаться в свои домы. Подвод собрать трудно. Сам господин провиантмейстер-лейтенант, подполковник Берх вчерась ко мне из Полоцка приехал и я с ним все надобное учреждение зделал для будущаго продовольствия ввереннаго мне отряда, но в разсуждении подвод покорнейше прошу вашего сиятельства господину полоцкому губернатору предписать, чтоб он иногда с своей стороны делал помощь.

*АВПРИ, ф. 79. оп. 6, д. 1838, л. 153.*

